

Пралятары ўсіх краін, злучайцеся!

# БЮЛЯТЭНЬ САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ БЕЛАРУСКАЙ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ САВЕЦКАЙ РЭСПУБЛІКІ.

Выдаецца Інфармацыйна-Выдавецкім Бюро Кіраўніцтва Спраў СНК і Эканамічнага Савету
г. Менск, Чырвонаармейская вул. № 3. — Падпісная плата на год 5 р. і на 1/2 г. 2 р. 50 к.
VII-ы ГОД ВЫДАНЬНЯ

№ 21 (1[illegible]) | 31 сьнежня 1931 г. | № 21 (122)

## ЗЬМЕСТ.



## Пастановы Народнага Камісарыяту Камунальнай Гаспадаркі БССР.

### 96. Пра ўвядзеньне ў дзеяньне новых нармальных статутаў для дабраахвотных пажарных арганізацый.

Сакратырыятам Прэзыдыуму ЦВК БССР зацьверджаны „Нармальны статут дабраахвотнага пажарнага таварыства“ і „Нармальны статут для пажарных дружын у прадпрыемствах, савецкіх гаспадарках і ўстановах, якія зноходзяцца на тэрыторыі БССР“. У адпаведнасьці з гэтымі статутамі ўстанаўляецца наступны парадак арганізацыі пажарных таварystваў і дружын на тэрыторыі БССР і пераходу існуючых дабраахвотных пажарных арганізацый на новы нармальны статут.

1. Нармальны статут дабраахвотнага пажарнага таварыства з моманту яго апублікаваньня пашыраецца на ўсе існуючыя і ўноў арганізоўваемыя дабраахвотныя пажарныя арганізацыі грамадзкага характару, як: гарадзкія, местачковыя, калгасныя і сельскія.

2. Нармальны статут для пажарных дружын пашыраецца на ўсе існуючыя і ўноў арганізоўваемыя дабраахвотныя пажарныя арганізацыі ведамственнага характару на прадпрыемствах, складах, пабудовах у саўгасах, установах і г. д.

3. Усе існуючыя па тэрыторыі БССР грамадзкія і ведамственныя дабраахвотныя пажарныя арганізацыі павінны ў 3-хмесячны тэрмін перайсьці на адпаведны нармальны статут і зарэгістравацца ў парадку, які вызначан гэтым статутам.

4. Унутраная арганізацыя і дзейнасьць пажарных дружын, якія састаяць пры дабраахвотных пажарных таварыствах, а таксама ведамственных дружын будуецца на аснове адпаведнай інструкцыі НККГ, якая публікуецца разам з гэтаю пастановаю.

5. З апублікаваньнем зацьверджаных сакратарыятам Прэзыдыуму ЦВК БССР нармальных статутаў і інструкцыі НККГ аб унутранай арганізацыі і дзейнасьці дабраахвотных пажарных. дружын лічыць скасаванымі выдадзеныя Народным Камісарыятам Унутраных Спраў: 1) Нармальны статут дабраахвотнага пажарнага таварыства, 2) Нармальны статут дабраахвотнай пажарнай дружыны і 3) Інструкцыю ўнутранай пабудовы дабраахвотных пажарных арганізацый.

Народны Камісар Камунальнай
Гаспадаркі БССР Аксючыц.

5 сьнежня 1931 г.
№ 30.

**Дадатак 1-шы.**

Зацьверджан Сакратарыятам ЦВК БСС[Р]
11 кастрычніка 1931 г. (прат. № 17).

## Нармальны Статут Дабраахвотнага Пажарнага Таварыств[а]

Таварыства распаўсюджвае сваю дзейнасьць на ..............................

..............................................................................................

(дакладна паказаць тэрыторыю)

і называецца .............................................. Дабраахвотнае Пажарнае Таварыства.

Праўленьне Таварыства знаходзіцца ў ..............................

..............................................................................................

(паказаць насельны пункт)

### I. Агульныя палажэньні.

1. Таварыства мае сваёю мэтаю ўдзел у сацыялістычным будаўніцтве шляхам распрацоўкі і правядзеньня мерапрыемстваў па папярэджаньню пажараў і іншых стыхійных бядот і непасрэднай барацьбы з імі у раёне дзейнасьці таварыства.

2. Для ажыцьцяўленьня паказаных мэтаў таварыства:

а) увязвае сваю дзейнасьць з чарговымі задачамі сацыялістычнага будаўніцтва і ўдзельнічае ў кампаніях, якія праводзяцца саветамі і грамадзкімі арганізацыямі, прыцягваючы да гэтага сваіх членаў;

б) шырока арганізуе сацыялістычнае спаборніцтва і ўдарніцтва, ужываючы іх у дзейнасьці Таварыства у цэлым і ў рабоце паасобных членаў;

в) вывучае пажарныя ўмовы свайго раёну і ўдзельнічае ў работах адпаведных органаў па пляніроўцы і перапляніроўцы насельных пунктаў, пашырэньні агнетрывалага будаўніцтва, а таксама ўдзельнічае ў распрацоўцы гэтымі органамі супроцьпажарных і супроцьстыхійных мерапрыемстваў;

г) вывучае пажарную справу шляхам рэгулярнага навучаньня сваіх дружын, арганізацыі ўстаноўленым парадкам мясцовых пажарных курсаў, скліканьня сходаў, лекцый, чытак па пытаньнях барацьбы з пажарамі і іншымі бядотамі;

д) арганізуе дабраахвотныя пажарныя дружыны ў калгасах і насельных пунктах раёну дзейнасьці для непасрэднага тушэньня пажараў, для ратаваньня людзей і маемасьці ўстаноў і грамадзян пры пажарах і іншых бядотах;

е) практычна вывучае і праводзіць у жыцьцё аўта-мота-мэханізацыю пажарнай аховы, для чаго зьвязваецца ў працы з арганізацыямі Аўтадора;

ж) рыхтуе сваіх членаў да барацьбы з пажарамі ва ўмовах абароны краіны, для чаго зьвязваецца ў працы з арганізацыямі Асоавіяхіма;

з) арганізуе публічныя лекцыі, даклады і інш. у мэтах распаўсюджваньня сярод насельніцтва ведаў аб мерах барацьбы з пажарамі і спосабах іх папярэджваньня;

і) арганізуе арцелі камінароў, муляроў і вадавозаў;

к) адчыняе кузьні і майстэрні па вырабу і рамонту прыладаў супроцьпажарнага абсталяваньня;

л) арганізуе майстэрні па вырабу чарапіцы, цэглы і іншых агнятрывалых матарыялаў;

м) ажыцьцяўляе праз начальнікаў дружын і іх памочнікаў у насельных пунктах, дзе адсутнічаюць органы Дзяржаўнага пажарнага нагляду, нагляд за пажарнай аховай у сваім раёне, у паасобку за пажарнай аховай новага будаўніцтва, клюбаў і іншых памяшканьняў грамадзкага і культурна-асьветнага прызначэньня, паведамляючы аб усіх парушэньнях мясцоваму савету альбо выканаўчаму камітэту, таксама можа прымаць на сябе пажарна-каравульную і паставую службу ў паказаных памяшканьнях;

н) можа прымаць на сябе прадстаўніцтва ад дзяржаўных устаноў і прадпрыемстваў, якія вырабляюць пажарны інвэнтар, абсталяваньне і снаражэньне, а таксама якія выдаюць спэцыяльную літаратуру;

о) падвышае грамадзка-палітычную актыўнасьць і вытворчую кваліфікацыю сваіх членаў праз арганізацыю розных гурткоў, прычым паліт-асьветная праца ў гурткох павінна быць ўзгоднена з мясцовым органам палітасьветы, у паасобку—з загадчыкам хаты-чытальні;

п) арганізуе, для прыцягненьня ўвагі да задач Таварыства, спэктаклі, канцэрты, урачыстасьці, можа ўтрымоўваць аркестр у мэтах платнай яго эксплёатацыі;

р) выдае членам Таварыства ўзнагароды за выдатную работу пры тушэньні пажараў і за іншыя заслугі, а таксама можа хадайнічаць аб такіх узнагародах перад дзяржаўнымі ўстановамі.

Умовы выдачы ўзнагарод устанаўляюцца па ўзгадненьні з органамі Дзяржаўнага Пажарнага Нагляду.

3. Таварыства ня мае на мэце атрыманьня прыбыткаў і ўсе даходы, якія паступаюць у выніку его дзейнасьці, ідуць на ажыцьцяўленьне непасрэдных задач Таварыства і ня могуць быць скарыстаны на задаваленьне эканамічных патрэб членаў Т-ва.

4. Для ажыцьцяўленьня задач, вызначаных артыкулам 2 гэтага статуту, Таварыства мае права набываць неабходную маемасьць, уладаць ёю на падставе існуючых законаў, заключаць усялякія дагаворы і зьдзелкі, якія адпавядаюць задачам Т-ва, прад'яўляць іскі, адказваць на судзе і г. д.

5. Па ўсіх выніках, якія выцякаюць з зробленых умоў і зьдзелак, Т-ва адказвае ўсёю сваёю маемасьцю, апроч спэцыяльна пажарнае.

6. Таварыства мае пячатку і штамп з надпісам „Дабрахвотнае Пажарнае Таварыства“, а таксама сьцяг з эмблемай па ўзору, які ўстанаўляецца НККГ БССР.

## II. Склад Таварыства.

7. Членамі Таварыства могуць быць:

а) усе грамадзяне, дасягнуўшыя 18-гадовага ўзросту, за выключэньнем асоб, пазбаўленых права выбіраць ў Саветы і пазбаўленых па суду права займаць выбарныя пасады ў грамадзкіх арганізацыях на працягу тэрміну, які вызначаны судом, і

б) юрыдычныя асобы, дзяржаўныя ўстановы і каперацыйныя арганізацыі.

Пры дабраахвотных пажарных таварыствах могуць фармавацца атрады юных пажарных дружыньнікаў з прыцягненьнем у іх падлеткаў ад 14 да 18 год.

8. Членамі Таварыства могуць быць асобы, якія адпавядаюць патрабаваньням арт. 7 гэтага статуту і прымаюць непасрэдны удзел у барацьбе з пажарамі і іншымі стыхійнымі бядотамі, у ратаваньні і ахове маемасьці і падачы тэхнічнай, а таксама першай мэдычнай дапамогі пры гэтых бядотах, альбо актыўна ўдзельнічаючыя ў бягучай працы Т-ва.

9. Дзяржаўныя ўстановы і прадпрыемствы, грамадзкія і прафэсійныя арганізацыі і фізычныя асобы (за выключэньнем пазбаўленых выбарчых правоў), якія аказалі Т-ву асабліва важныя услугі, атрымліваюць па пастанове агульнага сходу годнасьць ганаровых членаў Т-ва.

10. Асобы, жадаючыя ўступіць у члены Т-ва, падаюць аб гэтым пісьмовыя заявы ў Праўленьне Т-ва. У падаваемых заявах павінны быць усе зьвесткі, патрабуемыя арт. 7 гэтага Статуту, прычым адказнасьць за правільнасьць дадзеных аб сабе зьвестак нясуць асобы, якія падаюць і падпісваюць заявы.

11. Асобы, якія ўступаюць у члены Т-ва, уносяць уступныя, штогадовыя членскія уносы ў разьмерах і ў тэрміны, якія вызначаюцца агульным сходам Т-ва, але ня больш 3 руб. у год.

Для дзяржаўных устаноў і прадпрыемстваў, грамадзкіх і прафэсійных арганізацый разьмер членскага і ўступнага ўносаў вызначаецца ў кожным паасобным выпадку Праўленьнем Т-ва па згодзе.

Паасобныя члены Т-ва, якія ня могуць унесьці членскіх уносаў і зьяўляюцца актыўнымі працаўнікамі Т-ва, могуць быць вызвалены Праўленьнем Т-ва ад членскіх уносаў.

12. Члены Таварыства карыстаюцца наступнымі правамі:

а) правам рашаючага голасу на ўсіх агульных сходах Т-ва;

б) правам выбіраць і быць абранымі ў выканаўчыя і рэвізійныя органы Таварыства;

в) правам удзелу ў конкурсах і спаборніцтвах, якія арганізуюцца Т-вам;

г) правам нашэньня нагруднага знака, узор якога зацьвярджаецца НККГ.

13. Ганаровыя члены, акрамя правоў членаў Т-ва, вызначаных арт. 12, карыстаюцца таксама правам удзелу з рашаючым голасам ва ўсіх пасяджэньнях Праўленьня Т-ва.

14. Установы, прадпрыемствы, прафэсійныя і грамадзкія арганізацыі ўдзельнічаюць у рабоце Т-ва праз сваіх прадстаўнікоў з правамі членаў Т-ва, вызначанымі арт. 12 гэтага Статуту.

15. Кожны член Т-ва абавязан выконваць усе патрабаваньні Статуту, інструкцыі і распараджэньні Т-ва і актыўна удзельнічаць у рабоце Т-ва.

16. Выбыцьцё з ліку членаў Т-ва можа праводзіцца альбо па асабістай заяве выбываючага, альбо за няўплату вызначаных членскіх уносаў на працягу году, альбо па пастанове 2/3 наяўнага складу членаў Т-ва, прычым выключэньне ў апошнім выпадку можа ўтварацца толькі пры наяўнасьці з боку выключаемага паступкаў, якія не сумяшчальны з статутам Т-ва, альбо крымінальнага дзеяньня, а таксама пры бязьдзейнасьці і пасыўнасьці таго ці іншага члена Т-ва. Апроч таго, выбыўшымі лічацца асобы, якія згубілі правы, прадугледжаныя арт. 7 гэтага Статуту і якія патрабуюцца для ўступленьня ў лік членаў Т-ва.

Выбыўшыя па асабістаму жаданьню могуць быць прыняты ўноў на агульных падставах.

### VIII. Сродкі Таварыства.

17. Сродкі Дабраахвотнага Пажарнага Т-ва складаюцца з:

а) уступных і штогадовых членскіх уносаў;

б) аднаразовых уносаў і афяраваньняў;

в) субсыдый дзяржаўных устаноў і грамадзкіх арганізацый:

г) працантаў на капіталы Т-ва, якія хаваюцца ў крэдытных установах, і на процантныя паперы;

д) прыбыткаў ад належачай Т-ву маемасьці;

е) прыбыткаў ад усёй дзейнасьці, прадугледжанай гэтым статутам.

### IV. Органы кіраўніцтва Т-ва.

18. Кіруючым органам Т-ва зьяўляецца агульны сход членаў Т-ва, а яго выканаўчым органам—Праўленьне Таварыства.

19. Праўленьне Т-ва абіраецца агульным сходам членаў Т-ва тэрмінам на 1 год у колькасьці, устаноўленай сходам.

Для бягучай працы праўленьне з свайго складу абірае старшыню праўленьня, яго намесьніка, сакратара, скарбніка і загадчыка гаспадаркі Т-ва.

У Праўленьне Т-ва для кіруючага удзелу ў яго дзейнасьці ўводзяцца з правам рашаючага голасу прадстаўнікі ад савета, мясцовай арганізацыі ЛКСМБ, органа Дзяржаўнага пажарнага нагляду і прафарганізацый.

Да скліканьня першага агульнага сходу членаў Т-ва, сходам яго ўстаноўцаў абіраецца часовае праўленьне Т-ва, якое мае ўсе правы і абавязкі Праўленьня Т-ва.

20. Перавыбары членаў праўленьня могуць быць утвораны і да сканчэньня тэрміну яго паўнамоцтва на надзвычайным агульным сходзе.

21. У абавязкі Праўленьня Т-ва ўваходзіць:

а) правядзеньне ў жыцьцё рашэньняў аґульнага сходу;

б) кіраўніцтва работай Т-ва;

в) складаньне каштарысаў і дача справаздач аб сваёй дзейнасьці;

г) арганізацыя і загадваньне ўсімі прадпрыемствамі, справамі і маемасьцю Т-ва;

д) прыём членаў Т-ва, а таксама часовае выдаленьне іх з Т-ва за ганебныя учынкі да канчатковага вырашэньня пытаньня на агульным сходзе Т-ва;

е) наём і звальненьне рабочых і служачых;

ж) зносіны па справах Т-ва з дзяржаўнымі установамі, грамадзкімі арганізацыямі і прыватнымі асобамі;

з) складаньне правілаў і інструкцый па ўсіх відах дзейнасьці Т-ва;

і) прадстаўніцтва ад імя Т-ва ва ўсіх дзяржаўных установах і грамадзкіх арганізацыях;

к) выдача пасьведчаньняў, даверанасьцяй, паўнамоцтваў ад імя Т-ва;

л) утварэньне ад імя Т-ва ўсялякіх актаў, дагавораў і абавязацельстваў, прадугледжаных гэтым статутам;

м) скліканьне сходаў і падрыхтоўка да іх справаздач, дакладаў і інш;

н) выкананьне распараджэньняў органаў Дзяржаўнага пажарнага нагляду;

о) вядзеньне справаводства, рахункаводства і справаздачнасьці Т-ва;

п) удзел у выдаткаваньні сродкаў, сабраных у парадку самаабкладаньня шляхам прадстаўленьня ў адпаведны савет каштарысу на выдаткаваньне гэтых сродкаў і нагляд за іх выдаткаваньнем па прызначэньні.

22. Праўленьне зьяўляецца прадстаўнікам Т-ва без асобай на гэта даверанасьці па ўсіх справах і абавязацельствах Т-ва, а таксама ва ўсіх узаемаадносінах з усімі ўдзельнікамі Т-ва і іншымі ўстановамі, арганізацыямі і асобамі.

23. Уся перапіска па справах Т-ва, розныя абавязацельствы, чэкі і іншыя грашовыя дакумэнты, [а таксама даверанасьці падпісваюцца старшынёю праўленьня Т-ва альбо яго намесьнікам і сакратаром альбо скарбнікам па належнасьці.

24. Праўленьне Т-ва нясе поўную адказнасьць за свае няправільныя дзеяньні, парушаючыя статут і існуючае заканадаўства. Па ўсіх выніках, выцякаючых з заключаных дагавораў і зьдзелак, Т-ва адказвае ўсёй сваёю маемасьцю. Члены Т-ва за даўгі апошняга сваёй маемасьцю не адказваюць.

25. Праўленьне Т-ва павінна склікацца ня менш аднаго разу ў месяц.

26. Аб складзе абранага Праўленьня і аб усіх зьменах у ім Праўленьне абавязана паведамляць органу, які зарэгістраваў статут, і Дзяржаўнаму пажарнаму нагляду.

27. Штогод Праўленьне Т-ва абавязана прадстаўляць органу, які зарэгістраваў статут, справаздачу аб сваёй дзейнасьці як спэцыяльнай, так і фінансавай і адміністрацыйна-гаспадарчай. Пры кожнай справаздачы павінны быць прадстаўлены зьвесткі аб колькасьці ўсіх членаў Т-ва, плян работы на будучы час і прыбыткова-выдатковы каштарыс.

28. Штогод праўленьне Т-ва павінна прадстаўляць мясцоваму органу Дзяржаўнага пажарнага нагляду справаздачу аб сваёй дзейнасьці па форме, якая ім ўстаноўлена.

Праўленьне таксама робіць справаздачы аб дзейнасьці Т-ва на шырокіх сходах грамадзян і адпаведных сэкцыях савету.

29. Рэвізійная камісія выбіраецца агульным сходам членаў Т-ва тэрмінам на 1 год у складзе ня меньш 3-х чалавек з асоб, не ўваходзячых у склад Праўленьня Т-ва.

Да першага агульнага сходу рэвізійная камісія абіраецца сходам установцаў Т-ва.

30. Рэвізійная камісія правярае дзейнасьць Т-ва з пункту погляду ажыцьцяўленьня ім асноўных сваіх задач, а таксама наглядае за тым, каб Т-ва ў сваёй дзейнасьці не адхілілася ад норм, вызначаных гэтым статутам, таксама правярае адміністрацыйна-гаспадарчую дзейнасьць Т-ва і яго грашовую справаздачнасьць, дае сваё заключэньне па сутнасьці правільнасьці выдаткаваньня і хаваньня сродкаў, а таксама кіраўніцтва справамі Т-ва, вядзеньня справаводства і справаздачнасьці.

### V. Сходы Таварыства.

31. Сходы Т-ва бываюць чарговыя і надзвычайныя.

32. Чарговыя і надзвычайныя сходы членаў Т-ва, якія склікаюцца для абгаварэньня пытаньняў, зьвязаных з бягучай і спэцыяльнай дзейнасьцю Т-ва, зьяўляюцца адчыненымі.

33. Чарговыя сходы склікаюцца не радзей 1 разу ў год з абавязковым папярэднім паведамленьнем органа, які зарэгістраваў статут Т-ва, і мясцовага органа Дзяржаўнага пажарнага нагляду за 7 дзён да тэрміну скліканьня сходу.

Чарговыя сходы адбываюцца пры наяўнасьці ня менш $2/3$ членаў Т-ва; у выпадку, калі першы сход не адбудзецца з прычыны няўкі належнай колькасьці членаў, склікаецца другі сход не пазьней, як праз 10 дзён, які лічыцца законным пры любой колькасьці зьявіўшыхся.

34. Па патрабаваньню рэвізійнай камісіі альбо $1/3$ членаў Т-ва, а таксама органа Дзяржаўнага пажарнага нагляду, можа быць склікан надзвычайны агульны сход, прычым Праўленьне Т-ва павінна склікаць яго не пазьней, як на працягу 10 дзён з дня атрыманьня адпаведнай заявы.

Калі сход на працягу 10 дзён ня будзе склікан Праўленьнем, то ён склікаецца ў першых 2-х выпадках непасрэдна Рэвізійнай камісіяй, а ў апошнім выпадку—органам Дзяржаўнага пажарнага нагляду і лічыцца адбыўшымся пры любой колькасьці прысутнічаючых.

35. Да абавязкаў чарговых агульных сходаў членаў Т-ва адносіцца:

а) разгляд справаздачы Праўленьня і дакладаў рэвізійнай камісіі;

б) зацьверджаньне пляну працы, каштарысаў і выдаткаў, разгляд прапаноў аб далейшай працы Т-ва і зацьверджаньне інструкцый Праўленьню і рэвізійнай камісіі;

в) выбары Праўленьня і рэвізійнай камісіі, а таксама зацьверджаньне начальніка дружыны і начальнікаў атрадаў;

г) унясеньне зьмен і дапаўненьняў да статуту;

д) вызначэньне разьмеру членскіх уносаў;

е) зацьверджаньне альбо адхіленьне ўноў прынятых Праўленьнем членаў Т-ва;

ж) выключэньне са складу членаў Т-ва;

з) абгаварэньне дакладаў;

і) вызначэньне часу скліканьня чарговых агульных сходаў;

к) устанаўленьне ўзнагарод і парадку іх выдачы, а таксама ўзбуджэньне хадайніцтваў аб выдачы членам Т-ва ўрадавых узнагарод; абраньне ганаровых членаў Т-ва;

л) абгаварэньне пытаньня пра ліквідацыю Т-ва.

36. Усе пытаньні на агульных сходах вырашаюцца адкрытым галасаваньнем і прымаюцца звычайнай большасьцю галасоў, за выключэньнем пытаньняў, якія прадугледжаны ў п. п. „г“, „ж“, „к“ і „л“ арт. 35, для вырашэньня якіх абавязкова патрабуецца большасьць у $2/3$ галасоў прысутнічаючых на сходзе.

### VI. Дабраахвотная пажарная дружына

37. Для непасрэднай барацьбы з пажарамі з членаў Т-ва вылучаецца неабходная па разьмерах абараняемага раёну група аперацыйных працаўнікоў з начальнікам на чале, якая носіць назву: „Дабраахвотная Пажарная Дружына ........................................"
(назва Т-ва)

Дружына мае свае аддзелы ў насельных пунктах абараняемай тэрыторыі.

Начальнікі дружыны і атрадаў назначаюцца Праўленьнем і зацьвярджаюцца агульным сходам.

38. Дабраахвотная пажарная дружына складаецца з наступных атрадаў:

1) атрад тапорнікаў, куды ўваходзяць лазільшчыкі і тапорнікі;

2) атрад трубнікаў, куды ўваходзяць качальшчыкі, наглядчыкі за рукавамі і ствольшчыкі;

3) атрад водаснабжацеляў, куды ўваходзяць бочачнікі і вядзёрнікі;

4) атрад ахраніцеляў, члены якога ахоўваюць месца пажару і вынесеную з будынкаў маемасьць;

5) атрад санітараў і інш.

39. Парадак арганізацыі і дзейнасьці дабраахвотных пажарных дружын, а таксама абавязкі начальнікаў і радавых працаўнікаў вызначаюцца інструкцыяй, якая выдаецца НККГ БССР.

40. Члены дабраахвотнай пажарнай дружыны ў пэўных выпадках, як: на пажарна-тэхнічных занятках, у час пажараў і дзяжурстваў, маюць права насіць форму адзінага ўзору, які вызначаецца НККГ БССР для дабраахвотных пажарных арганізацый.

### VII. Атрады юных пажарных дружыньнікаў.

41. Пры дабраахвотных пажарных Т-вах могуць фармавацца атрады юных дружыньнікаў з падлеткаў ад 14 да 18 гадоў.

Да работы ў атрадах юных пажарных дружыньнікаў прыцягваюцца мясцовыя піанэрскія арганізацыі.

Праца атрада юных пажарных дружыньнікаў падпарадкавана Праўленьню Т-ва і ў галіне ідэалёгічнай увязваецца з мясцовай арганізацыяй ЛКСМБ, прадстаўнік якой уваходзіць у склад Праўленьня Т-ва.

42. Задачай арганізацыі юных дружыньнікаў зьяўляецца абучэньне моладзі пажарна-тэхнічным ведам.

43. Уступленьне ў члены атрада ЮПД робіцца ў парадку, які вызначан арт. 10 гэтага статуту.

44. Начальнік атрада ЮПД вылучаецца мясцовай арганізацыяй ЛКСМБ.

45. Пажарна-тэхнічным абучэньнем атраду ЮПД кіруе Праўленьне Т-ва ў асобе начальніка дружыны Т-ва. Гэтыя атрады скарыстоўваюцца ў час пажараў толькі для падсобнай работы, па-за сфэрай агня і небясьпекі для жыцьця.

46. Члены атрада юных пажарных дружыньнікаў на пажарна-тэхнічных занятках, а таксама у час пажараў маюць права насіць форму на агульных падставах.

47. Пасьля дасягненьня 18-цігадовага ўзросту члены атрада юных пажарных дружыньнікаў аўтаматычна пераводзяцца ў члены Т-ва.

### VIII. Парадак рэгістрацыі і ліквідацыі Таварыства.

48. Дабраахвотныя пажарныя таварыствы рэгіструюцца явачным парадкам ў сельскіх ці местачковых саветах (калі Т-ва знаходзіцца ў сельскай мясцовасьці ці мястэчку), альбо ў кіраўніцтвах міліцыі (у гарадох).

Для рэгістрацыі неабходна падаць у адпаведны савет ці кіраўніцтва міліцыі: а) заяву аб рэгістрацыі, падпісаную выканаўчым органам альбо ўстаноўцамі ў колькасьці ня менш 10 чалавек; б) пратакол сходу аб арганізацыі Т-ва альбо аб пераходзе на новы статут (для існуючых арганізацый); в) сьпіс асоб, падпісаўшых заяву, па наступнай форме: прозьвішча, імя і імя па бацьку, сацыяльнае становішча, партыйнасьць, маемаснае становішча і адрас.

Аб зарэгістраваньні Т-ва саветам альбо кіраўніцтвам міліцыі выдаецца адпаведная даведка.

49. Ліквідацыя Т-ва робіцца па пастанове адпаведнага савета альбо раённага выканаўчага камітэту.

Пры ліквідацыі Т-ва ўся маемасьць, у тым ліку і пажарны інвэнтар, паступае ў распараджэньне мясцовага савету ці выканаўчага камітэту, якія абавязаны скарыстаць яе па простаму прызначэньню.

### IX. Ільготы і перавагі.

50. Дабраахвотнае Пажарнае Таварыства карыстаецца ільготамі, якія ўстаноўлены пастановаю СНК БССР за 21/II-1925 г. (З. З. СССР 1925 г. № 13, арт. 102) і пастановаю ЦВК і СНК БССР за 21/VIII-1925 г. (З. З. БССР 1925 г. № 34, арт. 317).

**Дадатак 2-гі.**

**Зацьвердзіць.**
Загадчык Сакратарыяту Прэзыдыуму ЦВК БССР **Казлоўскі.**
6/VII-1931 г.

## Нармальны статут для пажарных дружын у прадпрыемствах, савецкіх гаспадарках і ўстановах, якія знаходзяцца на тэрыторыі БССР.

Статут . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . Пажарнай Дружыны
(назва дружыны)

пры . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
(назва прадпрыемства, установы, гаспадаркі)

### I. Мэта, абавязкі і правы дружыны.

1. Выходзячы з задачы аховы прадпрыемстваў, фабрык, заводаў, саўгасаў, МТС і ўсёй гаспадаркі сацыялістычнай краіны, пажарная дружына мае сваёю мэтаю папярэджаньне і тушэньне пажараў, а

таксама падачу першай дапамогі пры няшчасных выпадках і навальных бядотах на тэрыторыі . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
(вызначыць раён дзейнасьці дружыны)

2. Для ажыцьцяўленьня паказаных у арт. 1 мэтаў дружына павінна:

а) праводзіць рэгулярна тэарэтычныя і практычныя заняткі па пажарнай справе;

б) ведаць усе асаблівасьці абараняемага раёну ў адносінах пажарнай аховы;

в) быць знаёмай з разьмяшчэньнем усіх супроцьпажарных сродкаў, прыладаў і прыстасаваньняў на абараняемай тэрыторыі;

г) назіраць за выкананьнем усіх супроцьпажарных мерапрыемстваў, установленых для данага прадпрыемства (гаспадаркі, установы);

д) наглядаць за цэласьцю і спраўнасьцю пажарнага інвэнтару і супроцьпажарнага абсталяваньня, якія маюцца ў абараняемым раёне;

е) несьці дзяжурства ў начны час і ў іншых патрэбных выпадках на абараняемай тэрыторыі;

ж) праводзіць растлумачальную работу па пажарнай справе сярод рабочых і служачых, якія не састаяць у дружыне;

з) дапамагаць службовым асобам пажарнай аховы пры выкананьні імі сваіх абавязкаў.

3. Пажарная дружына мае права мець уласны штандар зацьверджанага ўзору для дабраахвотных пажарных арганізацый.

Члены дружыны пры выкананьні службовых абавязкаў па пажарнай справе маюць права насіць форму ўстаноўленага для дабраахвотных пажарных арганізацый узору.

4. Членам пажарнай дружыны даецца перавага перад іншымі рабочымі і служачымі пры аднольковых акалічнасьцях у сэнсе застаўленьня на даным прадпрыемстве (гаспадарцы, установе), а таксама пры прадастаўленьні кватэр у раёне дзейнасьці дружыны.

### II. Асабовы склад дружыны.

5. Членамі пажарнай дружыны могуць быць рабочыя і служачыя ахоўваемага прадпрыемства (гаспадаркі, установы) не маладзей 18 гадоў, якія ня маюць фізычных недахопаў, перашкаджаючых займацца пажарнай справай.

6. Прыём ў дружыну ўтвараецца па заявах, якія падаюцца начальніку дружыны, або па абвешчанаму запісу. Сьпісы жадаючых уступіць ў дружыну альбо заявы ўносяцца начальнікам дружыны на абгаварэньне агульнага сходу членаў дружыны і зацьвярджаюцца адміністрацыяй. Прыём у дружыну аддаецца па загаду.

7. На ўсіх членаў вядуцца імянныя сьпісы з адзнакамі аб праходжаньні службы.

8. Члены пажарнай дружыны выбываюць з яе складу:

а) па ўласнаму жаданьню—з папярэднім паведамленьнем начальніка дружыны за 10 дзён;

б) за адпаведныя ўчынкі—па пастанове агульнага сходу, зацьверджанай адміністрацыяй, прычым рашэньне апошняй зьяўляецца канчатковым.

### III. Дзейнасьць дружыны.

9. Для пасьпяховага змаганьня з пажарамі дружына паддзяляецца на паасобныя атрады, якія маюць свае вызначаныя функцыі і адпаведны інвэнтар.

10. Вучэбныя заняткі ў дружыне праводзяцца ў непрацоўны час: у першыя 3 м-цы пасьля арганізацыі дружыны—не радзей аднаго разу ў дэкаду, а ў далейшым—не радзей 2 разоў у месяц.

Увага. Парадак нясеньня дзяжурстваў, каравулаў, пастоў і інш. вызначаецца асобай інструкцыяй унутранага распарадку, якая выдаецца прадпрыемствам альбо гаспадарчым аб'яднаньнем па ўзгадненьні з адпаведным органам пажарнай аховы.

11. Усе члены пажарнай дружыны абавязаны:

а) па сыгналу трывогі зьяўляцца безадкладна як у працоўны, так і непрацоўны час на месца збору ці пажару;

б) бязумоўна захоўваць дысцыпліну і бясспрэчна выконваць усе распараджэньні камскладу;

в) у штодзённай працы сачыць за пажарнай бясьпекаю і аб усіх заўважаных недахопах безадкладна паведамляць камскладу дружыны;

г) ведаць разьмяшчэньне бліжэйшых да месца працы сродкаў пажаратушэньня і сачыць, каб яны заўсёды былі даступны і спраўны;

д) добра ведаць свой статут і ўсе інструкцыі і распараджэньні па дружыне, а таксама свае асабістыя абавязкі, як члена дружыны.

### IV. Утрыманьне дружыны.

12. Выдаткі на ўтрыманьне пажарнай дружыны адносяцца за кошт прадпрыемства (гаспадаркі, установы), пры якім яна арганізавана.

13. Адміністрацыя павінна прадаставіць у распараджэньне пажарнай дружыны:

а) асобнае памяшканьне на абараняемай тэрыторыі з асьвятленьнем і ацяпленьнем для хаваньня пажарнага інвэнтара і снараджэньня, для дзяжурстваў і заняткаў;

б) пажарны інвэнтар і розныя матарыялы і прылады, патрэбныя для нармальнай работы дружыны;

в) баявое снараджэньне для аховы здароўя дружыньнікаў пры рабоце на пажарах.

14. Начальніку дружыны і яго памочніку прадастаўляюцца ў першую чаргу кватэры ад прадпрыемства (гаспадаркі, установы) з маючыхся ў распараджэньні адміністрацыі ў раёне дзейнасьці дружыны альбо па-блізасьці.

15. Час, які патрачан дружыньнікамі на пажарах ці трывогах у працоўны час, аплачваецца на агульных падставах.

За час, які дружыньнікі праводзяць на дзяжурствах, ім выдаецца кампэнсацыя па нормах, якія ўстанаўляюцца па згодзе з органамі прафсаюзаў.

### V. Кіраўніцтва дружынаю.

16. Усімі справамі і дзейнасьцю дружыны кіруе яе начальнік, які абіраецца агульным сходам членаў дружыны і зацьвярджаецца адміністрацыяй прадпрыемства (гаспадаркі, установы).

Начальнік дружыны назначае начальнікаў атрадаў, якія зацьвярджаюцца адміністрацыяй.

17. Агульныя распараджэньні па дружыне аддаюцца Начальнікам яе праз загады, якія зацьвярджаюцца кіраўніком прадпрыемства (гаспадаркі, установы).

18. Справаводства і справаздачнасьць па дружыне выконваюцца апаратам прадпрыемства (гаспадаркі, установы) пад кіраўніцтвам Начальніка дружыны.

### VI. Парадак ўзнагарод і спагнаньняў.

19. За выдатныя ўчынкі пры выкананьні пажарных абавязкаў, за асобныя заслугі ў справе паляпшэньня пажарнай аховы члены пажарнай дружыны могуць быць узнагароджаны:

а) падзякаю перад строем;

б) падзякаю па загаду;

в) грашовай прэміяй альбо каштоўнай рэччу;

г) агульнымі ўнагародамі для пажарных працаўнікоў;

д) агульнадзяржаўнымі ўзнагародамі.

Узнагароды па літ. літ. „г“ і „д“ хадайнічаюцца ва ўстаноўленым парадку.

Пра кожную ўзнагароду аддаецца ў загадзе па прадпрыемству (гаспадарцы, установе) і па дружыне.

20. За парушэньне вызначанага парадку і дысцыпліны пажарнай службы члены пажарнай дружыны падлягаюць пакараньню праз: а) папярэджаньне; б) вымову па загаду; в) выключэньне з шэрагаў дружыны.

### VII. Парадак рэгістрацыі і ліквідацыі дружыны.

21. Адміністрацыя прадпрыемства (гаспадаркі, установы) не пазьней дэкаднага тэрміну пасьля арганізацыі дружыны паведамляе аб гэтым гарсавету альбо райвыканкому па належнасьці, якія рэгіструюць яе і выдаюць даведку аб утворанай рэгістрацыі.

Не пазьней 2-х дэкад пасьля арганізацыі дружыны Начальнік яе паведамляе аб гэтым і аб утворанай рэгістрацыі мясцоваму органу Дзяржаўнага пажарнага нагляду з прадстаўленьнем зьвестак аб колькасным складзе дружыны і абсталяваньні яе пажарным інвэнтаром.

Увага. У прадпрыемствах, падведамственных ВСНГ, начальнік дружыны прадстаўляе такія-ж зьвесткі кіраўніцтву ВА БПА.

22. Пры неадпавяданьні начальніка дружыны свайму прызначэньню, органы пажарнай аховы маюць права патрабаваць замены яго іншай асобай, альбо падрыхтаваць яго шляхам інструктаваньня.

23. Пажарная дружына можа быць распушчана па распараджэньні адміністрацыі, узгодненым з мясцовым органам Дзяржаўнага пажарнага нагляду.

Увага. У прадпрыемствах, падведамственных ВСНГ, роспуск дружыны павінен быць таксама ўзгоднен з Кіраўніцтвам ВА БПА.

24. Уся маемасьць дружыны, пасьля яе ліквідацыі, застаецца ў прадпрыемстве (гаспадарцы, установе), альбо па распараджэньні аб'яднаючага гаспадарчага органа можа быць перададзена іншай пажарнай арганізацыі.

---

Зацьвярджаю. Народны Камісар Камунальнай Гаспадаркі БССР **Аксючыц.**

5 сьнежня 1931 г.

## 97. Інструкцыя аб унутранай арганізацыі і дзейнасьці дабраахвотных пажарных дружын.

### I. Агульныя палажэньні.

1. Гэтая інструкцыя пашыраецца на ўсе дабраахвотныя пажарныя дружыны, якія дзейнічаюць на тэрыторыі БССР, незалежна ад таго, пры якім гаспадарчым органе альбо арганізацыі дружына знаходзіцца.

2. Мясцовыя органы Дзяржаўнай Пажарнай Аховы і ведамственныя органы пажарнай аховы маюць права па паасобных пытаньнях дзейнасьці пажарных дружын, якія не прадугледжаны ў гэтай інструкцыі, выдаваць свае інструкцыі, пры чым апошнія не павінны супярэчыць палажэньням, якія выкладзены ніжэй.

### II. Парадак уступленьня і выбыцьця з дружыны.

3. Асобы, якія жадаюць уступіць у дружыну, падаюць аб гэтым пісьмовую заяву на імя начальніка дружыны.

У заяве павінна быць паказана: прозьвішча, імя і імя па бацьку, род заняткаў, сацыяльнае становішча, партыйнасьць і дакладны хатні адрас паступаючага.

4. Уноў паступаючыя залічваюцца начальнікам дружыны у адзін з атрадаў кандыдатамі для іспыту прыгоднасьці іх да пажарнай справы пад кіраўніцтвам бліжэйшых начальнікаў на тэрмін ня больш 3-х месяцаў. Аб выніках іспыту начальнік атраду даводзіць да ведама начальніка дружыны, а апошні, пераканаўшыся ў прыгоднасьці кандыдата да пажарнай справы, пераводзіць яго ў члены дружыны, аб чым паведамляе праўленьню т-ва альбо адміністрацыі прадпрыемства для зацьверджаньня.

5. Начальнік дружыны паведамляе начальніку адпаведнага атраду аб залічэньні кандыдата членам яго атраду, пасьля чаго ўноў прынятаму дружыньніку выдаецца пасьведчаньне і ўстаноўленае снараджэньне.

6. Уноў залічаны ў дружыну пажарны-дабраахвотнік дае падпіску аб тым, што ён абавязваецца выконваць усе правілы нармальнага статуту і гэтай інструкцыі.

7. Перавод пажарных-дабраахвотнікаў з аднаго атраду ў другі робіцца начальнікам дружыны.

8. Пажарны-дабраахвотнік, які жадае выбыць са складу дружыны, павінен падаць аб гэтым заяву начальніку дружыны не пазьней як за 10 дзён і здаць загадчыку гаспадаркі ўсе атрыманыя ад дружыны рэчы.

9. На ўсіх членаў дружыны вядзецца асабовая справа, у якой адзначаецца ўся дзейнасьць, заслугі, правіннасьці кожнага дружыньніка.

### III. Правядзеньне заняткаў, яўка на трывогі і пажары.

10. Члены дружыны пад кіраўніцтвам сваіх начальнікаў практычна знаёмяцца са сваімі абавязкамі па барацьбе з пажарамі.

На вучэньнях члены дружыны выконваюць усе практыкаваньні, якія патрабуюцца пры тушэньні пажараў і, апроч таго, праходзяць страявое вучэньне. Дружына зьбіраецца для абгаварэньня тактыкі тушэньня пажараў, на якіх яна працавала, а таксама для гутарак і чытак па пытаньнях папярэджваньня пажараў і інш. пытаньняў пажарнай справы.

11. Заняткі дружыны і паасобных яе атрадаў павінны праводзіцца ў поўным парадку, пры захаваньні наступных правіл:

а) на месцы заняткаў, пасьля сыгналу альбо каманды „зважай“, дружыньнікі павінны безадкладна спыніць размовы, курэньне і інш.;

б) кожны дружыньнік прымае загады толькі ад сваіх бліжэйшых начальнікаў і ад начальніка дружыны. Загадам іншых асоб яны не падпарадкоўваюцца;

в) распараджэньні малодшых начальнікаў могуць быць адменены толькі па загаду старшых;

г) калі начальнік здароваецца з дружынаю, члены дружыны адказваюць „добры дзень“, калі дзякуе: „служым працоўнаму народу“, калі начальнік дае загад—дружыньнік павінен яго паўтарыць і словам „ёсьць“ пацьвердзіць прыняцьце загаду да выкананьня;

д) па ўсіх пытаньнях, якія датычаць пажарнай службы, члены дружыны зварочваюцца непасрэдна да сваіх бліжэйшых начальнікаў, альбо да начальніка дружыны.

12. Кожны член дружыны пры першых знаках пажарнай трывогі павінен безадкладна сьпяшыць да месца пажару і ўсімі мерамі садзейнічаць пасьпяховай дзейнасьці дружыны ў барацьбе з агнём і ахове жыцьця і маемасьці пагарэльцаў.

13. Члены дружыны павінны быць вежлівы з усімі і не ўступаць ў спрэчкі з публікай, міліцыяй і паміж сабою, трымаць сябе з вартасьцю, не падаючы повaду да скаргаў, памятуючы, што толькі адданасьцю да справы і ўвагаю да кожнага грамадзяніна, яны падтрымліваюць уважлівасьць да пажарных працаўнікоў. У выпадку, калі грамадзяне не выконваюць законных патрабаньняў дружыньнікаў, дружыньнікі зварочваюцца за садзейнічаньнем да міліцыі, але ня інакш, як праз бліжэйшага начальніка.

14. На пажарах і вучэньнях загады і распараджэньні перадаюцца словамі альбо пры дапамозе ўстаноўленых сыгналаў.

15. На пажарах члены дружыны назіраюць, каб ніхто з пабочных асоб не карыстаўся належачымі дружыне прыладамі без дазволу начальніка дружыны альбо адпаведнага начальніка атраду.

16. Пасьля сканчэньня пажару кожны начальнік атраду робіць пераклічку і аб выніках дакладвае ў той-жа дзень начальніку дружыны.

17. Пры дакладным выкананьні падпарадкаваным загадаў начальніка, апошні адказвае за вынікі свайго загаду.

У выпадку, калі дружыньнік атрымаў ад начальніка загад, які супярэчыць раней атрыманаму ім загаду ад іншага начальніка, ён дакладвае аб гэтым начальніку, які дае апошні загад, і калі гэты начальнік застаецца пры сваім патрабаваньні, то дружыньнікі абавязван безадкладна і бясспрэчна выканаць яго распараджэньне, прычым адказнасьць за невыкананьне першага загаду ускладаецца на начальніка, які даў новае распараджэньне.

18. Члены дружыны абавязаны наведваць усе пажары і вучэньні, зьяўляцца па запрашэньні начальніка дружыны альбо замяшчаючай яго асобы і удзельнічаць сваёй працай у выкананьні тых даручэньняў, якія ім будуць дадзены.

Дружыньнікі ўдзельнічаюць таксама ў арганізацыі пажарных сьвят, пастановак і інш., якія праводзяцца на карысьць арганізацыі.

Дружыньнікі не павінны ўдаляцца з месца дзеяньня дружыны без дазволу адпаведнага начальніка (арт. 11, літ. „д“).

19. У выпадку немагчымасьці па якой-небудзь прычыне ўдзельнічаць у працы дружыны, члены яе павінны у кожным асобным выпадку даць аб гэтым слоўнае альбо пісьмовае тлумачэньне.

20. Дружыньнік, які тры разы падрад адсутнічае на пажарах альбо вучэньнях без уважлівых прычын, лічыцца выбыўшым са складу дружыны. Тлумачэньне аб прычынах неяўкі павінна быць пададзена начальніку дружыны не пазьней як праз 3 дні.

21. Законнымі прычынамі неяўкі лічацца:

а) хвароба дружыньніка альбо каго-небудзь з членаў яго сям'і,

б) адлучка з месца пражываньня;

в) выкананьне такой працы, якая не дазваляе адлучацца ад месца альбо раёну выкананьня гэтай працы.

22. Пра ўсялякую адлучку з месца пражываньня дружыньнік абавязан загадзя паведаміць свайму бліжэйшаму начальніку, а апошні дакладвае начальніку дружыны.

### IV. Дзяжурствы.

23. Для сталага нагляду за магчымымі ўзьнікнуць пажарамі і для сваечасовай падачы дапамогі, асабліва ў начны час, праводзяцца пры пажарным дэпо рэгулярныя дзяжурствы членаў дружыны.

Лік дзяжурных вызначаецца начальнікам дружыны і зацьвярджаецца праўленьнем т-ва альбо адміністрацыяй прадпрыемства па узгадненьні з адпаведным органам пажарнай аховы.

24. Дзяжурствы зьяўляюцца абавязковымі для ўсіх членаў дружыны. Пры назначэньні на дзяжурства захоўваецца чарговасьць, якая ўстанаўліваецца на пэўны перыяд начальнікам дружыны.

25. Члены дружыны, якія састаяць у чарговым нарадзе на дзяжурства, абавязаны зьявіцца ў вызначаны час у пажарнае дэпо ва ўстаноўленай форме і з снараджэньнем.

На дзяжурствах не дапушчаюцца шум, беспарадкі, азартныя гульні, ужываньне сьпіртавых напіткаў, а таксама забараняецца дапушчаць пабочных асоб у дзяжурнае памяшканьне.

26. Адзін з дзяжурнага нараду назначаецца па погляду начальніка дружыны старшым.

У абавязкі старшага ўваходзіцьназіраньне за правільнай і своечасовай зьменай паставых, праверка іх, а таксама нагляд за захаваньнем парадку ў дэпо.

27. Пры пажарнай трывозе старшы прымае ўсе захады да найхутчэйшага выезду пажарнага абозу і да прыбыцьця начальніка распараджаецца наяўным складам дружыны.

28. Пасьля сканчэньня тэрміну дзяжурства, старшы запісвае ў асобную кнігу (журнал дзяжурстваў), усе здарэньні за час дзяжурства.

29. Начальнікі атрадаў дружыны і іх памочнікі абавязаны па чарзе наведваць пажарнае дэпо для кантролю за дзяжурствам, прычым аб кожным наведваньні і свае заўвагі яны павінны запісаць у адпаведнай графе журналу дзяжурстваў

**V. Нашэньне формы і карыстаньне пажарным інвэнтаром і снараджэньнем.**

30. На месцы дзеяньня дружыны (пажары, вучэньні, манэўры, дзяжурствы (пажарныя-дабраахвотнікі зьяўляюцца ва ўстаноўленай форме, калі апошняя ёсьць.

Нашэньне формы не пры выкананьні службовых абавязкаў па пажарнай справе забараняецца.

Форма выдаецца дружыньнікам ад арганізацыі альбо набываецца за свой ўласны кошт.

31. Усе атрымліваемыя рэчы кожны дружыньнік павінен трымаць у чыстаце і парадку, а ў выпадку порчы ці згубы па ўласнай віне —аднавіць за свой кошт.

32. Калі тая ці іншая рэч пажарнай формы ці снараджэньня папсавана альбо згублена не па віне дружыньніка, ён павінен безадкладна паведаміць аб гэтым бліжэйшаму начальніку, які разам з загадчыкам гаспадаркі прымае захады да аднаўленьня папсаванай ці згубленай рэчы.

33. Дружыньнікі, якія карыстаюцца уласнай формай і маюць уласнае снараджэньне, павінны захоўваць усе правілы нашэньня формы і ня маюць права іх парушаць.

34- Пажарны-дабраахвотнік, які выбывае з дружыны, павінен зьвярнуць загадчыку гаспадаркі ўсе выдадзеныя яму рэчы і прылады, прычым у выпадку недастачы альбо папсуцьця па ўласнай віне, абавязан аплаціць кошт папсаваных альбо згубленых рэчаў.

35. Скарыстаньне пажарнага інвэнтара, снараджэньня і прыладаў не па простаму іх прызначэньню забаронена законам (паст. СПА за 9/V-1921 г.—З. З. 1921 г. № 39, арт. 208)

### VI. Меры заахвочваньня і дысцыплінарныя спагнаньні.

36. За добрую работу ў пажарнай справе і добрае выкананьне абавязкаў члены дружыны могуць быць узнагароджаны:

а) падзякаю перад строем,
б) падзякаю па загаду,
в) грашовай прэміяй альбо каштоўнай рэччу,
г) агульнымі ўзнагародамі для пажарных працаўнікоў,
д) агульна-дзяржаўнымі ўзнагародамі.

Узнагароды, паказаныя пад літарамі „а“ і „б“, выносяцца начальнікам дружыны, узнагароды, паказаныя пад літарай „г“, выносяцца агульным сходам ДПТ альбо адміністрацыяй. Узнагароды, паказаныя пад літарамі „г“ і „д“, выдаюцца адпаведнымі органамі па хадайніцтву райвыканкомаў ці гарсаветаў за асабліва выдатныя ўчынкі і заслугі.

Апроч таго, пажарныя-дабраахвотнікі па пастанове агульных сходаў могуць быць прадстаўлены да ўзнагароды ад імя адпаведнага савету ці райвыканкому.

37. За правіннасьці і парушэньне правіл, устаноўленых для дружын, на пажарных-дабраахвотнікаў накладаюцца спагнаньні:

а) папярэджваньне,
б) вымова па загаду,
в) выключэньне са складу дружыны.

Спагнаньні, паказаныя пад літарамі „а“ і „б“, накладаюцца начальнікам дружыны; спагнаньне, паказанае пад літарай „в“,—у адпаведнасьці з нармальным статутам.

38. У выпадку абвінавачаньня таго ці іншага дружыньніка у дапушчэньні ганебнага ўчынку, недапушчальнага для пажарн.-дабраахвотніка, начальнік дружыны мае права адхіліць яго ад удзелу ў дружыне да высьвятленьня справы.

39. Дзеяньні і ўчынкі дружыньнікаў, якія цягнуць за сабой меры заахвочваньня ці дысцыплінарныя спагнаньні, рэгіструюцца ў асабовай справе дружыньніка.

### VII. Абавязкі паасобных атрадаў дружыны.

#### а) Атрад тапорнікаў.

40. Атрад тапорнікаў камплектуецца з найбольш здаровых і спрытных членаў дружыны.

У абавязкі гэтага атраду ўваходзіць ратаваньне людзей, жывёлы і маёмасьці, разборка і ломка будынкаў і паасобных іх частак для лёкалізацыі пажару.

41. Ломка будынкаў і разборка паасобных частак іх робяцца ня інакш, як па распараджэньні начальніка дружыны альбо яго намесьніка. Ломка і разборка дапушчаецца толькі ў тых выпадках, калі гэта мэтазгодна і неабходна для лёкалізацыі пажару.

42. Ламаць дзьверы і вокны без патрэбы сурова забараняецца, асабліва па суседству з памяшканьнямі, якія гараць.

Рабіць гэта дапушчаецца толькі пры вялікім накапленьні дыму альбо ў іншых неабходных выпадках, па распараджэньні начальніка атраду.

43. Тапорнікі, якія зьявіліся на пажар раней сваіх начальнікаў, павінны ў першую чаргу заняцца ратаваньнем людзей, а потым маемасьці.

Калі высьветліцца на пажары, што ў будынку, які гарыць, знаходзяцца людзі, то ўсе намаганьні атраду тапорнікаў павінны быць накіраваны на тое, каб выратаваць людзей.

44. Пры ратаваньні маемасьці тапорнікі павінны захоўваць асьцярожнасьць у адносіне да вынасімых рэчаў. Вынас рэчаў з будынкаў, якія гараць, адносіцца да абавязкаў тапорнікаў, якія перадаюць выратаваныя рэчы членам атраду ахраніцеляў.

Пры ратаваньні маемасьці, ў першую чаргу выносяцца больш каштоўныя і лёгкія рэчы, а потым магчыма брацца за цяжкія і вялікія рэчы, пры гэтым ня трэба кідаць рэчы праз вокны з вышыні, а таксама трэба ўхіляцца ад ломкі дзьвярэй і вокан.

45. Пры неабходнасьці кінуць якую-небудзь цяжкую рэч з вакна альбо страхі, неабходна для папярэджаньня няшчасных выпадкаў крыкнуць „Сьцеражыся! падае зьверху"!.

46. У час працы на пажарах тапорнікі павінны працаваць не па аднаму, а разам, захоўваючы неабходную асьцярожнасьць, каб своечасова заўважыць і папярэдзіць пагражаючую небясьпеку. Тапорнікі павінны быць паведамлены аб наяўнасьці гаручых рэчаў і выбухаючых матарыялаў і прымаць захады да іх удаленьня з будынкаў і памяшканьняў, якія гараць альбо могуць загарэцца.

47. Усе тапорнікі павінны ўмець хутка і надзейна ставіць драбіны і лазіць па іх, ведаць спосабы звальваньня комінаў, ускрыцьця падлогі, столяў і стрэх. Таксама яны павінны ведаць асаблівасьці пажараў у залежнасьці ад роду і характару будынкаў.

Тапорнікі павінны асабліва старацца не дапушчаць агонь да лесьвічных клетак, дзе з прычыны адсутнасьці цэльных столяў і падлогі паміж паверхамі маецца заўсёды цяга паветра.

48. Кожны тапорнік, які ўзяў для карыстаньня інструмант з абозу, павінен зьвяртацца з ім беражліва. Пасьля сканчэньня пажару тапорнікі павінны зьвярнуць на месца ўзятыя імі з абозу прылады, а ў выпадку згубы ці папсаваньня іх яны павінны заявіць аб гэтым свайму бліжэйшаму начальніку.

### б) Атрад трубнікаў.

49. Трубнікі прыводзяць у дзеяньне пажарныя машыны, назіраюць за дастаўкай вады да іх, пракладваюць рукавы, наглядаюць за іх спраўнасьцю і цэласьцю, працуюць з брандспойтамі і, наогул, выконваюць усё тое, што патрабуецца для вадазабясьпечаньня і правільнай работы даручаных атраду машын і прыладаў.

50. Усе члены атраду разьмяркоўваюцца па машынах, прычым кожны трубнік павінен ведаць нумар машыны, да якой ён прымацаваны. У выпадку неабходнасьці начальнік атраду альбо яго памочнік могуць перакінуць таго ці іншага трубніка ад аднаго нумару да другога.

51. Кожны трубнік павінен добра ведаць пабудову машын і іх работу і способы хуткай папраўкі маючыміся пад рукой сродкамі. Трубнікі павінны ўмець хутка і спрытна скачваць і раскачваць рукавы, злучаць гайкі, хутка пры дапамозе ўстаноўленых способаў здымаць машыны з ходу і ставіць іх на ход і г. д.

52. Трубнікі павінны наглядаць за тым, каб рукавы ў час работы ня былі папсаваны, г. зн., каб па іх ня езьдзілі, не таптали іх і не кідалі на іх абломкі і гаручыя рэчы. Пасьля сканчэньня работы на пажары рукавы павінны быць ачышчаны ад гразі, вымыты і добра прасушаны, а потым скачаны і паложаны на месца.

Трубнікі павінны беражліва зьвяртацца з машынамі і рукавамі, паведамляючы начальніку свайго атраду аб усіх выпадках папсаваньня ці паломкі.

53. Трубнікі павінны клапаціцца аб забясьпечаньні машын вадою, знаёміцца папярэдне з мясцовымі вадакрыніцамі. У час пажару некалькі трубнікаў камандыруюцца на месца напаўненьня вадою пажарных бочак у мэтах найхутчэйшай іх дастаўкі на месца прызначэньня.

54. У выпадку недахопу вады, альбо калі вадаём недаступны для пад'езду, трубнікі павінны арганізаваць мясцовае насельніцтва для падачы вады вёдрамі праз аднарадную альбо двайную шарэнгу.

55. Трубнікі павінны пільна сачыць за сыгналамі ствольшчыкаў і дакладна іх выконваць, павінны сачыць, каб у час працы рукавы былі плотна злучаны і ня мелі крутых загібаў. Трубнікі павінны заўсёды мець пад рукамі зажымы на выпадак разрыву рукавоў.

### в) Атрад ахраніцеляў.

56. Члены гэтага атраду ачапляюць месца пажару на адлегласьці, якая неабходна для зручнай работы дружыны, удаляюць з ачэпленай зоны ўсіх пабочных асоб і нікога з пабочных асоб не прапушчаюць у гэтую зону, а у выпадку супраціўленьня з боку грамадзян зьвяртаюцца праз бліжэйшага свайго начальніка за садзейнічаньнем міліцыі.

57. Члены атраду ахраніцеляў ахоўваюць вынесеную з гаручых будынкаў маемасьць, выносяць маемасьць з будынкаў, якія знаходзяцца ў небясьпечным становішчы і нікога не дапушчаюць да гэтай маемасьці, за выключэньнем асоб, якія маюць на гэта права. Яны таксама ахоўваюць здадзеныя ім пажарныя прылады і маемасьць членаў дружыны, наглядаюць за тым, каб ня было покраж, а таксама безкарыснай ломкі будынкаў, асабліва рам, дзьвярэй, вокан.

58. Пры адсутнасьці атраду санітараў, члены атраду ахраніцеляў павінны клапаціцца аб здароў'і пацярпеўшых грамадзян, павінны пераносіць і перавозіць хворых і параненых, даглядаць за імі, праважаць іх дадому альбо да больніцы і пры выкананьні сваіх абавязкаў павінны быць уважлівы і аказваць поўнае садзейнічаньне пагарэльцам.

59. Член атрада ахраніцеляў, які пастаўлен на пост, не павінен покідаць яго, пакуль ня будзе зьменены. На пасту забараняецца сядзець, уступаць у гутаркі і г. д.

60. Члены атрада ахраніцеляў павінны сачыць за тым, каб грамадзяне не заграмаджалі дарогі да месца пажару.

### VIII. Аддзелы дружыны.

61. Дружыны, якія састаяць пры пажарных таварыствах, па пастанове Праўленьня Таварыства могуць мець свае ячэйкі ў паасобных пунктах раёну дзейнасьці Т-ва. Гэтыя часьці дружыны называюцца аддзеламі і носяць агульную назву дружыны.

62. Кожны аддзел дружыны падзяляецца на атрады, мае пажарны абоз у залежнасьці ад велічыні і важнасьці абараняемага раёну.

63. У адносінах абавязкаў службы, дысцыпліны, заахвочваньняў і спагнаньняў аддзелы падпарадкаваны агульным правілам гэтай інструкцыі.

64. Кожны аддзел абслугоўвае пэўны раён, межы якога вызначаюцца Праўленьнем Таварыства; у выпадку неабходнасьці, па распараджэньні начальніка дружыны, аддзел выяжджае за межы свайго раёну.

65. На чале кожнага аддзелу стаіць начальнік, якому падпарадкаван увесь асабовы склад аддзелу. Начальнік нясе адказнасьць за цэласьць і спраўнасьць маемасьці аддзелу.

66. Начальнік аддзелу намячаецца начальнікам дружыны і зацьвярджаецца Праўленьнем Таварыства.

Начальнік аддзелу падпарадкаван начальніку дружыны, альбо яго намесьніку.

67. Кожны аддзел мае свайго загадчыка гаспадаркі, абавязкі якога вызначаны гэтай інструкцыяй.

68. Пры пажарнай трывозе выяжджае на пажар той аддзел, у раёне якога пачаўся пажар. Астатнія аддзелы ў поўнай гатоўнасьці чакаюць вызаву.

Праўленьнем Т-ва можа быць установлен іншы парадак выезду аддзелаў дружыны.

69. Калі на пажар прыбыла некалькі аддзелаў, то пры адсутнасьці начальніка дружыны альбо яго намесьніка працай усіх дружыньнікаў кіруе начальнік аддзелу, ў раёне якога здарыўся пажар, а пры адсутнасьці апошняга—першы з прыбыўшых начальнікаў аддзелаў.

70. Пры рабоце на пажары некалькіх аддзелаў, пасьля распараджэньня аб звароце аддзелаў у свае дэпо, застаецца дзяжурыць на месцы пажару той аддзел, у раёне якога здарыўся пажар.

### IX. Абавязкі начальніцкіх і службовых асоб дружыны.

#### а) Начальнік дружыны.

71. Начальнік зьяўляецца галоўным аперацыйным кіраўніком дружыны, які адказвае за яе дзейнасьць і якому падпарадкаваны ўсе начальнікі атрадаў і аддзелаў дружыны.

72. На начальніка дружыны ўскладаецца:

а) практычная падрыхтоўка дружыньнікаў як у галіне папярэджваньня, гэтак і тушэньня пажару; ён павінен азнаёміць дружыньнікаў з устройствам і спосабамі карыстаньня пажарных прыладаў, для чаго павінен сам вывучаць і ведаць усе маючыяся ў дружыне пажарныя машыны і прылады; ня менш аднаго разу ў месяц павінны праводзіцца гутаркі і калятыўныя чыткі па пытаньнях пажарнай справы;

б) нагляд за выкананьнем дружыньнікамі ўсіх устаноўленых правілаў, прыцягваючы за іх парушэньні да дысцыплінарнай адказнасьці; начальнік павінен сачыць за парадкам на месцы працы дружыны, а на пажарах—не дапушчаць, каб дружыньнікі, захапляючыся адвагаю, напрасна ставілі ў небясьпеку сваё жыцьцё і здароўе;

в) адказнасьць за ўтрыманьне, становішча і баявую гатоўнасьць пажарнага абозу і інвэнтару, які знаходзіцца ў распараджэньні дружыны; начальнік назірае за дзейнасьцю загадчыка гаспадаркі і дае яму неабходныя паказаньні аб папраўцы ці набыцьці пажарных прыладаў;

г) вядзеньне чарговасьці дзяжурстваў, назначэньне старшых па нарадах і нагляд за дакладным выкананьнем дзяжурнымі сваіх абавязкаў;

д) кіраўніцтва працаю дружыны на пажарах; аглядзеўшы месца пажару, разьмяркоўвае абавязкі паміж дружыньнікамі, вызначае месцы для установкі пажарных машын і г. д.

73. Начальнік дружыны вызначае час правядзеньня трывог і вучэньняў, паведамляючы аб гэтым ў неабходных выпадках мясцовым органам улады. Заняткі праводзяцца начальнікамі атрадаў, а начальнік дружыны кіруе іх дзеяньнямі.

74. За ўсю дзейнасьць дружыны на пажарах нясе адказнасьць начальнік яе альбо яго намесьнік, а таму ніхто ня мае права адмяніць яго распараджэньняў. У прысутнасьці вышэйшага пажарнага кіраўніка начальнік дружыны кіруе апошняю на правах начальніка асобнай пажарнай часткі.

75. На пажарах пры начальніку дружыны знаходзіцца сыгналіст для перадачы распараджэньняў; сыгналіст мае днём чырвоны флажок, а ноччу чырвоны ліхтар, каб усе працуючыя на пажары ведалі месца знаходжаньня начальніка.

76. Пасьля сканчэньня пажару альбо вучэньня, начальнік дружыны распушчае аддзелы і атрады толькі пасьля таго, як адпаведнымі начальнікамі будзе зроблена пераклічка, а ўсе прылады і інструманты будуць паложаны ў абоз на свае месцы.

77. Начальнік вядзе дакладныя сьпісы дружыньнікаў і бягучы вучот асабовага складу, а таксама вучот выездаў і работы на пажарах і вучэньнях і прадстаўляе адпаведныя зьвесткі па належнасьці.

78. Пэрыядычна начальнік дружыны зьбірае начальнікаў атрадаў і загадчыка гаспадаркі для абгаварэньня насьпеўшых пытаньняў жыцьця і дзейнасьці дружыны і аб прынятых рашэньнях дакладвае праўленьню таварыства альбо адміністрацыі прадпрыемства (гаспадаркі, установы).

79. Начальнік дружыны пажарнага таварыства ў населеных пунктах, дзе адсутнічаюць органы дзяржаўнай пажарнай аховы, мае на-

гляд за пажарнай ахoвай у раёне дзейнасвці дружыны, у прыватнасьці за пажарнай аховай новага будаўніцтва, культасьветных устаноў і г. д., паведамляючы аб усіх парушэньнях устаноўленых супроцьпажарных правіл і мерапрыемстваў адпаведнаму савету альбо райвыканкому; дружына можа прыняць на сябе нясеньне пажарна-каравульнай і паставой службы ў паказаных аб'ектах.

80. У выпадку выезду з месца жыхарства больш чым на дэкаду, начальнік абавязан загадам па дружыне здаць сваю пасаду памочніку альбо намесьніку, перадаўшы яму ўсе сьпісы і кнігі па дружыне.

У выпадку хваробы альбо адсутнасьці начальніка дружыны, яго замяшчаюць начальніцкія асобы ў наступным парадку: а) памочнік начальніка дружыны, б) начальнік атраду тапорнікаў, в) начальнік атраду трубнікаў, г) памочнік начальніка атраду тапорнікаў, д) памочнік начальніка атраду трубнікаў.

### б) Начальнік атраду тапорнікаў, ён-жа памочнік начальніка дружыны.

81. Начальнік атраду тапорнікаў зьяўляецца бліжэйшым памочнікам начальніка дружыны і замяшчае апошняга ва ўсіх выпадках яго адсутнасьці. Назначаецца ён у парадку, які вызначан нармальным статутам, з ліку дружыньнікаў, якія знаходзяцца ня менш аднаго году ў атрадзе тапорнікаў.

У дружынах, дзе ёсьць больш 50 членаў, назначаецца асобны памочнік начальніка дружыны.

82. На памочніка начальніка дружыны ўскладаецца: зьбіраньне, па магчымасьці дакладных, зьвестак аб пажарах і прычынах іх узьнікненьня (па ўстаноўленай праграме) і паведамленьне аб іх начальніку дружыны: нагляд пад кіраўніцтвам начальніка дружыны за пажарнай аховай у раёне дзейнасьці дружыны, з паведамленьнем аб усіх парушэньнях начальніку дружыны; на пажарах і вучэньнях трымаць сувязь паміж начальнікам дружыны і начальнікамі атрадаў і нагляд за дакладным выкананьнем дадзеных начальнікам распараджэньняў.

83. На начальніка атраду тапорнікаў, апроч таго, ускладаецца: а) нагляд за спраўнасьцю і цэласьцю інвэнтару свайго атраду, пэрыядычны і кожны раз пасьля пажару агляд яго, аб выніках чаго ён дакладвае начальніку дружыны, б) абучэньне членаў свайго атраду спосабам устаноўкі драбін, карыстаньня ламавымі і ратунковымі прыладамі, тлумачэньне ім, як разьбіраць розныя стрэхі, вуглы сьцен і іншыя часьці будынкаў, азнаямленьне іх з сыгналамі і г. д., в) вядзеньне вучоту асабовага складу свайго атраду, рэгістрацыя прысутнічаючых і адсутнічаючых, пасьля кожнага пажару пераклічка свайго атраду, г) кіраваньне працаю тапорнікаў на пажарах і вучэньнях, а таксама працаю ствольшчыкаў, якія знаходзяцца ў яго распараджэньні.

84. Начальнік атраду тапорнікаў павінен ведаць устройства і спосабы дзеяньня ўсіх пажарных прыладаў, якія маюцца ў абозе дружыны.

85. Пасьля прыбыцьця на месца пажару начальнік атраду павінен зьяўляцца адразу к начальніку дружыны для атрыманьня адпаведных распараджэньняў, а пры адсутнасьці начальніка кіруе працаю дружыны.

в) Памочнік начальніка атраду тапорнікаў.

86. Памочнік начальніка атраду тапорнікаў намячаецца к назначэньню начальнікам атраду тапорнікаў з найбольш вопытных членаў гэтага атраду, і назначаецца на гэтую пасаду начальнікам дружыны.

87. Памочнік начальніка атраду тапорнікаў замяшчае начальніка атраду тапорнікаў у выпадках яго адсутнасьці альбо хваробы.

г) Начальнік атраду трубнікаў.

88. Начальнік атраду трубнікаў назначаецца на ўмовах, якія паказаны ў арт. 81 гэтай інструкцыі, з ліку асоб, знаёмых з мэханізмам насосаў.

У яго абавязкі ўваходзіць усё, прадугледжанае ў арт. 83 гэтай інструкцыі, прыстасоўна да свайго атраду.

89. Начальнік атраду трубнікаў разьмяркоўвае дружыньнікаў свайго атраду па машынах, прычым кожны трубнік павінен ведаць номер машыны, да якой ён прымацаван. У неабходных выпадках начальнік атраду трубнікаў пераводзіць таго ці іншага дружыньніка ад аднае машыны да другой, прычым дружыньнікі, атрымаўшыя такое распараджэньне, павінны яго бясспрэчна выканаць.

90. Начальнік атраду трубнікаў наглядае за правільнай работай і зьменай качальшчыкаў, за беражлівымі адносінамі да рукавоў і інш. прыладаў, прымае захады да своечасовага падвозу вады і разьмяркоўвае яе па машынах.

91. У неабходных выпадках начальнік атраду трубнікаў прыцягвае грамадзян да качаньня вады і назірае за правільнай работай і беражлівымі адносінамі да пажарных прыладаў.

92. Начальнік атраду трубнікаў назначе неабходную колькасьць ствольшчыкаў з ліку асоб свайго атраду, найбольш вопытных, знаёмых з устройствам машыны.

93. Пры абучэньні дружыньнікаў свайго атраду начальнік атраду трубнікаў павінен зьвярнуць асаблівую ўвагу на разьвіцьцё практычных навыкаў па хуткай і арганізаванай устаноўцы машын, пракладцы рукавоў і рабоце са стваламі, адначасова знаёміць іх з устройствам машын, з магчымымі недахопамі ў рабоце машын і спосабамі іх зьнішчэньня.

94. Начальнік атраду трубнікаў павінен клапаціцца аб палепшаньні ўмоў вадазабясьпечаньня ў раёне дзейнасьці дружыны.

д) Памочнік начальніка атраду трубнікаў.

95. Пам. Начальніка атраду трубнікаў назначаецца на ўмовах, якія прадугледжаны арт. 86 гэтай іінструкцыі. У выпадку адсутнасьці альбо хваробы начальніка атраду трубнікаў, замяшчае яго.

96. Асноўным абвязкам памочніка атраду трубнікаў зьяўляецца забясьпечаньне вадой пажарных машын і арганізацыя своечасовай і бесьперапыннай яе дастаўкі на пажар, а таксама правядзеньне мерапрыемстваў па палепшаньні вадазабясьпечаньня ў раёне дзейнасьці дружыны.

е) Начальнік атраду ахраніцеляў.

97. Начальнік атраду ахраніцеляў назначаецца у парадку, які паказан ў арт. 81 гэтай інструкцыі, з асоб, якія карыстаюцца аутарытэтам і давер'ем сярод насельніцтва і дружыньнікаў.

98. У адносіне асабовага складу свайго атраду на нач. атраду ахраніцеляў ускладаецца тое, што паказана ў арт. 83, літ. літ „в" і „г", гэтай інструкцыі.

99. Адразу пасьля прыбыцьця на пажар ён накіроўвае некалькі членаў свайго атраду на заняцьце ўсіх уваходаў і выхадаў з загарэўшагася памяшканьня, а таксама суседніх, якім пагражае небясьпека, загадвае ім пільна сачыць за ўсімі, хто ўваходзіць, для папярэджваньня крадзяжу, і наглядаць, каб пры вынасе маемасьці зварочваліся з ёю беражліва.

100. Нач. атраду ахраніцеляў арганізуе з членаў атраду цэп і абгараджвае месцы пажару, дапушчаючы да месца пажару толькі тых, хто па закону мае на гэта права.

101. Нач. атраду ахраніцеляў наглядае за тым, каб члены атраду, пастаўленыя для аховы маемасьці, самавольна не пакідалі свайго месца, патрабуе ад членаў свайго атраду, каб яны выконвалі свае абавязкі спакойна, імкнучыся супакоіць пагарэльцаў і суседніх жыхараў, а таксама не уступаць у спрэчкі з міліцыяй, чырвонаармейцамі і публікай і наогул, каб яны зьвярталіся з усімі вежліва, а ў выпадку якіх-небудзь непаразуменьняў мелі справу з сваім начальнікам альбо начальнікам дружыны.

102. Начальнік атраду ахраніцеляў, будучы самастойным у межах дзейнасьці свайго атраду, падпарадкаван агульным распараджэньням начальніка дружыны.

103. Пэрыядычна, адзін раз у месяц, ён зьбірае членаў свайго атраду для абгаварэньня пытаньняў дзейнасьці атраду і агульных пытаньняў пажарнай справы і аб выніках дакладвае начальніку дружыны.

ж) Памочнік начальніка атраду ахраніцеляў.

104. Памочнік нач. атраду ахраніцеляў назначаецца на ўмовах, якія прадугледжаны арт. 86 гэтай інструкцыі, і ў выпадках адсутнасьці начальніка атраду, замяшчае яго.

з) Загадчык гаспадаркі дружыны.

105. Загадчык гаспадаркі дружыны назначаецца начальнікам дружыны і зацьвярджаецца праўленьнем т-ва альбо адміністрацыяй прадпрыемства.

106. Загадчык гаспадаркі можа быць запрошан на найму. Аплата працы загадчыка гаспадаркі можа ўтварацца праўленьнем т-ва з дазволу агульнага сходу т-ва.

107. Загадчык гаспадаркі, пры жаданьні пакінуць сваю працу, павінен загадзя, не пазьней як за 15 дзён, паведаміць аб гэтым начальніку дружыны.

108. На загадчыка гаспадаркі дружыны ўскладаецца:

а) нагляд за належным утрыманьнем прыладаў, інструмантаў і інш. маемасьці, якая здадзена яму па опісу;

б) прымаць захады, каб усе рэчы пажарнага снараджэньня і абмундзіраваньня дружыны знаходзіліся заўсёды ў спраўнасьці ў патрэбнай колькасьці;

в) вядзеньне інвэнтарных кніг у 2-х экз., заносячы ў іх прыход і ўбыль інвэнтару кожны месяц. Адзін экз. кніг знаходзіцца ў справах дружыны, а другі—на руках у загадчыка гаспадаркі.

109. У выпадку няспраўнасьці, псуцьця або згубы прыладаў нач. гаспадаркі безадкладна дакладвае аб гэтым начальніку дружыны; папраўку маемасьці дружыны ён праводзіць папярэдне ўзгодніўшы гэта з начальнікам дружыны.

Патрабаваньні начальнікаў атрадаў адносна папраўкі прыладаў загадчык гаспадаркі безадкладна дакладвае начальніку дружыны і выконвае без чаргі.

110. Загадчык гаспадаркі павінен мець імянны сьпіс усіх дружыньнікаў і службовых асоб дружыны; пра ўсякую зьмену ў асабовым складзе яму павінны безадкладна паведамляць начальнікі атрадаў.

111. Належачыя дружыне рэчы пажарнага снараджэньня і абмундзіраваньня загадчык гаспадаркі выдае дружыньнікам пад расьпіску; прымаючы рэчы назад, ён зьвяртае расьпіску і на карэньчыку робіць адзнаку аб атрыманьні.

Калі на працягу 3-х дзён пасьля выхаду альбо звальненьня дружыньніка лічачыяся за ім рэчы ня будуць здадзены загадчыку гаспадаркі, апошні дакладвае аб гэтым начальніку дружыны, які прымае захады праз праўленьне т-ва альбо адміністрацыю прадпрыемства да атрыманьня рэчаў альбо спагнаньня іх кошту.

112. Набыцьцё прыладаў і рознай маемасьці і заказы на іх робяцца загадчыкам гаспадаркі сумесна з начальнікам дружыны, паводле зацьверджанага каштарысу.

Прыём заказаных рэчаў, а таксама рэчаў з рамонту праводзіцца пры ўдзеле начальніка дружыны і спэцыяльнае асобы, якая назначаецца праўленьнем т-ва альбо адміністрацыяй прадпрыемства. Праўленьне т-ва альбо адміністрацыя прадпрыемства могуць устанавіць іншы парадак прыёму і набыцьця маемасьці.

113. Усякая рэч, якая ўноў паступае ў інвэнтар дружыны, памячаецца загадчыкам гаспадаркі адпаведнаю адзнакай.

114. У распараджэньне загадчыка гаспадаркі прадастаўляецца пэўны крэдыт у патрэбным разьмеры на дробныя і тэрміновыя выдаткі. Пасьля выдаткаваньня авансу загадчык гаспадаркі кожны раз прадстаўляе праўленьню т-ва альбо адміністрацыі прадпрыемства справаздачу з адпаведнымі дакумэнтамі і ў выпадку патрэбы просіць дазволу на новы крэдыт.

115. Загадчык гаспадаркі, будучы самастойным у межах сваіх праў і абавязкаў, падпарадкаван агульным распараджэньням і паказаньням начальніка дружыны.

116. На пажарах загадчык гаспадаркі клапоціцца аб цэласьці і беражлівасьці ў адносінах да пажарных прыладаў і інструмантаў, якія пасьля пажару ён прымае ад кожнага начальніка атраду і робіць адзнакі аб маючыхся недахопах і папсаваньнях, пры гэтым сочыць за тым, каб у машынах і рукавах не заставалася вада, каб яны належным чынам прасушваліся.

117. Па узгадненьні з начальнікам дружыны загадчыку гаспадаркі даецца права ўтвараць іспыт прыгоднасьці пажарных прыладаў, аб выніках чаго ён дакладвае начальніку дружыны.

118. У буйных пажарных дружынах можа быць устаноўлена пасада памочніка загадчыка гаспадаркі, які намячаецца загадчыкам гаспадаркі дружыны і зацьвярджаецца праўленьнем т-ва альбо адміністрацыі прадпрыемства па прадстаўленьні начальніка дружыны.

Памочнік замяшчае загадчыка гаспадаркі ва ўсіх выпадках яго адсутнасьці.

### і) Мэдычны пэрсанал.

119. Мэдпрацаўнікі, якія састаяць членамі т-ва альбо дружыны, прымаюць на сябе абавязкі па падачы першай дапамогі пацярпеўшым на пажарах дружыньнікам і пагарэльцам, а таксама лечаць бясплатна дружыньнікаў, якія пацярпелі пры выкананьні службовых абавязкаў па пажарнай справе.

120. Мэдпрацаўнік арганізуе ў дапамогу сабе групу санітараў, якая састаіць пры дружыне, і рыхтуе членаў гэтай групы шляхам адпаведнага інструктажу, таксама арганізуе аптэчкі і клапоціцца аб своечасовым папаўненьні іх мэдыкамэнтамі.

121. На месцы пажара мадпрацаўнік знаходзіцца у вызначаным пункце, які адзначаецца днём белым флагам з чырвоным крыжам, а ноччу—белым ліхтаром з чырбоным крыжам. Санітары маюць нарукаўную павязку белага колеру з чырвоным крыжам.

122. Пэрыядычна (па магчымасьці штомесяц), а у патрэбных выпадках безадкладна, мэдпрацаўнік прадстаўляе начальніку дружыны альбо праўленьню т-ва кароткую справаздачу аб аказнай ім мэдыч-

най дапамозе, аб ліку хворых і выздаравеўшых дружыньнікаў, якія пацярпелі пры выкананьні службовых абавязкаў у дружыне.

123. У выпадку неабходнасьці праца мэдпэрсаналу можа аплачвацца з сродкаў таварыства. Разьмер гэтай аплаты ўстанаўляецца праўленьнем т-ва і зацьвярджаецца агулным сходам членаў таварыства.

Начальнік Кіраўніцтва Пажарнай Аховы Народнага
Камісарыяту Камунальнай Гаспадаркі БССР Берасьневіч.

5 сьнежня 1931 г.
№ 31.




## Папраўкі.

У інструкцыі НК Камунальнай Гаспадаркі БССР „Пра парадк правядзеньня работ на інвэнтарызацыі маемасьці мясцовых саветаў" (Бюл. СНК БССР 1931 г., № 15, паст. 75) заўважны памылкі, якія трэба выправіць паводле наступнага:

1. Стар. 4, першы радок, трэба: „Б. Інвэнтарыя справы".
2. Стар 5, першы радок, трэба: „15. Калі выявіцца..." і г. д.
3. Стар. 5, у § 17, трэба: „...апэрацыйныя часткі..."
4. Стар. 9, у § 48, трэба: „...(у маштабе 1 : 5000)..."
5. Стар. 9, у § 50, трэба. „50, Будынкі разьбіваюцца на 5 клясаў:..."
6. Стар. 10, у радку 10 зьверху, трэба: „...леншым абрабленьнем..."
7. Стар. 13, першы радок, пад табліцаю, у лічбах, трэба: „...(10 × 7,5 + 15 × 19,6 +..."
8. Стар. 15, у другім абзацы, формулу трэба чытаць:

$$E = H. \frac{A}{Д} \times \frac{A + Д}{2 Д}$$

9. Стар. 22, у § 112, трэба: „... па форме № 30",...
10. Стар. 23, у § 121, п. „д", трэба: „...ад 1,6 проц.—1,9 проц. для драўляных..."
11. У § 124, п. „б" трэба: „...дабудова пабудоў;"






Адказны Рэдактар І. Фрыдман.

Друк. Кір. Спраў СНК і ЭС БССР. Галоўлітбел № 294. Зак. № 94 — 5350 экз.